Беларуская
# КРЫНІЦА
Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта

| Штомесячнае выданьне | Выходзіць з 8 (21) кастрычніка 1917 г. | Аднаўлена ў 1991 г. | № 1 (769), люты 1991 г. | Кошт 50 кап. |
|---|---|---|---|---|

СЛОВА ДА ЧЫТАЧОЎ

## Праз паўстагодзьдзя

Крыніцы... Як добра вядомае гэтае слова. Калісьці яны бруіліся па ўсёй нашай зямлі, паілі ў сьпёку сасьмяглых падарожных, касцоў на сенажацях, пастухоў на пасьбе, з іх бралі ваду для хатніх патрэб. Яны не перасыхалі ні ў летнюю засуху, ні ў зімовую сьцюжу, калі мароз скоўваў усё навокал. Бо іх жывіла сама маці-зямля. Але потым прыйшлі меліяратары і не стала крыніц. Меліяратары зямлі, яны сьцьвярджалі, што паляпшаюць прыроду, а на самой справе губілі яе. І загубілі.

Але ёсьць яшчэ і іншыя крыніцы. Крыніцы нашае духонасьці, сьвядомасьці, маралі, усьведамленьня свайго паходжаньня, адданасьці бацькоўскай зямлі, нацыянальнае годнасьці. І тут прайшлі са сваім няшчадным ідэялагічным нарогам меліяратары — меліяратары душ людскіх, меліяратары нашай гістарычнай памяці, нашай культуры, мовы, традыцый. Яны спаборнічалі між сабою, каб паболей вынішчыць сьвятыняў, беларускіх школ, перакроіць гісторыю на свой лад, навязаць сваю псеўдакультуру, замяніць высакародныя асновы чалавечай, народнай маралі пошласьцю, нялюдзкасьцю, спусташэньнем душ. І тут меліяратары духоўнасьці, гэтаксама, як і меліяратары зямлі, шмат чаго дамагліся.

Сёньня паўстала нялёгкая задача — аднавіць страчанае за дзесяцігодзьдзі духоўнай меліярацыі. Нялёгкая — бо аднаўляць, будаваць значна цяжэй, чым разбураць, зьнішчаць. Да таго ж яшчэ пры заўзятым супрацьдзеяньні пэўных, уладу маючых, сіл, пасьля многіх дзесяцігодзьдзяў летаргічнага сну народа. Але няма вечнае зімы, няма вечнае ночы. Над нашаю зямлёю абуджаецца вясна — вясна надзей і неадольнага імкненьня да лепшае долі роднага краю. І ноч, вельмі не хочучы гэтага, вымушана адступаць пад націскам сьвятла. Аднаўленьне ўсяго, што страчана, адраджэньне таго, што стварылі продкі для нас на працягу многіх стагодзьдзяў, адбудова незалежнага палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцьця Беларускае Дзяржавы, далучэньне яе да сусьветнае супольнасьці незалежных, свабодных народаў, як роўнай з роўнымі, вольнай з вольнымі — гэтага вымагае наш час, наша будучыня. Незалежная, дэмакратычная Беларусь — гэта мэта дзейнасьці і газэты «Беларуская крыніца», якая пад жалезнай запрудаю меліяратараў духоўнасьці не крынічыла роўна паўстагодзьдзя.

Першы нумар яе пад назовам «Крыніца» выйшаў у Петраградзе 8 (21) кастрычніка 1917 г. — у час бурных падзей у Расійскай дзяржаве, гэтай змрочнай вязьніцы народаў, за кратамі якой быў і беларускі народ. У 1918 г. трэці нумар газэты выйшаў у Менску. А з 7 верасьня 1919 г. яна стала выдавацца ў Вільні, з 1925 г. пад назовам «Беларуская крыніца». На яе старонках асьвятлялася дзейнасьць Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі, жыцьцё беларускага народа ва ўмовах тагачаснай Польшчы, ягонае змаганьне за лепшую долю, за свае правы, публікаваліся літаратурныя творы. Матэрыялы газэты не падабаліся ўладам, таму многія яе нумары выходзілі з белымі плямамі, часта нават вельмі вялікімі — санацыйная цэнзура здымала цэлыя артыкулы. Яе выдаўцы і рэдактары — Я. Пазьняк, А. Стаповіч, А. Шутовіч неаднойчы прыцягваліся да суда. 58 нумароў газеты было канфіскавана, тройчы ўлады спынялі выхад яе.

У 1939 г. у выніку пакту Молатаў—Рыбентроп, агрэсіі гітлераўскай Нямеччыны супраць Польшчы і паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь была ўстаноўлена «граница обоюдных интересов СССР и Германии», як тады пісалі ў газэтах. Вільня і Віленшчына засталіся на савецкім баку і неўзабаве былі перададзены Літве, як «узнагарода» за падпісаньне ёю дагавору аб «дружбе і ўзаемным супрацоўніцтве» з СССР. З 17 лістапада 1939 г. «Беларуская крыніца» стала выходзіць зноў, але пад назовам «Крыніца». Ды нядоўга працягвалася яе выданьне. 15 чэрвеня 1940 года ў незалежную Літоўскую Рэспубліку былі ўведзены савецкія войскі, звергнуты ўрад і прызначаны новы, г. зв. народны. 12 ліпеня 1940 г. літоўскія, ужо савецкія, улады забаранілі выданьне «Крыніцы». На 768 нумары яна спыніла сваё існаваньне. Апэляваць на гэты раз не было да каго, тагачасныя ўлады не хацелі нават чуць гэтага слова — апэляцыя. Ды і не было каму апэляваць — беларускія нацыянальныя дзеячы апынуліся за кратамі, нашмат мацнейшымі, чым санацыйна-польскія.

І вось сёньня ў вашых руках зноў «Беларуская крыніца». Адроджаная, нумар 769. Паміж ім і папярэднім — цэлае паўстагодзьдзе.

МАРТЫРАЛОГ НАШЫХ СЬВЯТЫНЯЎ



*Бернардынскі касьцёл (Вітаўтава фара) у Гародні. Будынак быў зьнішчаны ў пачатку 60-ых гадоў нашага стагодзьдзя. Пра гэта чытайце на 3-яй старонцы. (Здымак 30-ых гадоў XX ст.).*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ

## Арганізацыйнага камітэту Хрысьціянска-дэмакратычнага Саюзу Беларусі

Людзі Беларусі! Кожны з нас, хто задумваецца пра сэнс і мэту свайго быцьця, бачыць роспачны стан грамадзтва, у якім жыве. Шматгадовае панаваньне антыгуманнага, ваяўнічага бязбожніцкага і таталітарнага ладу паставіла нас на край бездані. Часу для аднаўленьня спосабу жыцьця, які ўзвышаў бы годнасьць чалавека, застаецца ўсё меней і меней.

Разбэшчанасьць і хлусьлівая таталітарна-атэістычная прапаганда, якая запаўняла старонкі газэт, часопісаў і экраны тэлевізараў, гучала з дынамікаў радыёпрыёмнікаў, у школьных класах і нават у дзіцячых садках амаль завяршыла сваю мэту: наша грамадзтва перажывае ўсеагульны духоўны, палітычны, эканамічны і самцыяльны крызіс. Ці ж можна інакш характарызаваць тое становішча, калі ў нашай рэспубліцы з калісьці даволі высокаразвітай сельскай гаспадаркаю ўвачавідкі спустошыліся паліцы прадуктовых магазінаў, а чалавек, які позна вяртаецца дамоў з працы ці з гасьцей, будзе лічыць, што пашанцавала, калі дабярэцца да свайго жыльля жывы і непакалечаны. Нястрымны вал палітычнага напалу выклікаў у грамадзтве, якое было зусім не гатовае да гэтага, спачатку выбух бязплённых надзей, а пасьля, як вынік, найглыбейшую апатыю і абыякавасьць да ўсяго, што адбываецца. Народ, які на працягу дзесяцігодзьдзяў адрывалі ад родных нацыянальных каранёў, ужо амаль страціў сваю мову і культуру. А дэмаграфічная палітыка «ператасоўваньня нацый», што праводзілася таталітарным рэжымам па ўсёй краіне, толькі ўзмацніла гэты працэс.

З болем даводзіцца канстатаваць, што вырасла ўжо не адно пакаленьне людзей, якія не бачаць сэнсу і мэты свайго існаваньня і, такім чынам, гатовыя на ўсё.

Цяпер кожны сумленны і разважны чалавек разумее: надалей гэтак жыць нельга!

З ўсьведамленьнем усяго гэтага ў нашай Рэспубліцы, як і ва ўсёй краіне, шэраг грамадзка-палітычных рухаў стварыў некалькі палітычных партый, якія прапануюць розныя шляхі вы-

(Заканчэньне на 2-ой стар.).

Сёньня ў нумары:

Адам СТАНКЕВІЧ

# З ЖЫЦЬЦЯ І ДЗЕЙНАСЬЦІ КАЗІМЕРА СВАЯКА

(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)

Цэлую ноч гудзела мяцеліца, гонячы сыпкі сьнег і насыпаючы гурбы. Цяжка дзеткам ісьці ў школку, завеена дарога няблізкая, а і мароз шчыпле вушы. Але мы ў поце, з румянымі тварамі бяжом праз насыпы, лезем праз гурбы — сьмешна неяк і лёгка. Радасная пара! Як доўга помніцца верш, навучаны на памяць! Як доўга стаіць у вачах вучыцель суровы, што мерыў злосна ўдары лінейкай «без дай прычыны!» У імгле мінуўшчыны ён здаецца лепшым і болей людзкім. Мімавольна забываесься, што ён быў п'яніца горкі і маскаль наравісты... А які вясёлы быў паварот з школы! Далёка сьлізгаліся па гладзенькім лядку; прыжмурыўшы адно вочка, паказвалі язык дзяўчынкам, чапалі шалуцькавата кожнага сустрэчнага, празывалі і сьмяяліся з боўдзелаў і злых сяброў. Дзе ж было дзець тую жывасьць і энергію дзіцячую, што як ручай рвалася разьліцца? Напрасна хацелі судзяржаць нас старшыя, называючы «распусьнікамі»... Мы сваё права мелі...»*

## II. У ГАРАДЗКОЙ ШКОЛЕ Й ДУХОЎНАЙ СЭМІНАРЫІ

У 1900 годзе Казімер Сваяк паступіў у гарадзкую школу ў Сьвянцянах, якую скончыў у 1905 г. І гэты час успамінае ён у тэй жа сваей «Дзеі»:

«Гразка было ехаць да павятовага места, дзе меў я зачаць свае навукі па сканчэньні людовай школкі. Конь ледзь цягнуў воз, у каторым сядзеў пахмурны бацька і я маўклівы, задуманы. «От, дарога цяжкая, — адазваўся ўрэшце бацька, — глядзі, каб не пашлі намарна гэты труды і захады». Я маўчаў. Баязьлівы мой характар быў прычынай цяжкіх мысьляў, поўных неспакою і прачуцьця нявыясьненага.

Эх ты, сьветазарная дарога навукі! Сьвеціш ты маладой душы, як ясны месяц сярод майскае ночкі. А ўвойдзеш у тваю краіну, адкрываюцца штораз новыя сьветы, новыя зоры, неразгаданыя, недаступныя! Вось-вось ухваціш адзін праменьчык, нацешышся ім, раз'ясьніш цемру быту, аж зьяўляецца другі, трэці... і сілы ападаюць, аж маркоціцца твая істота і малее, разумеючы, што кароткае жыцьцё Бог даў для пазнаньня, або што пэўна ня тут нам угадаць усе тайніцы быту, — трэба адмены цэлай істоты».

(Працяг будзе).

Друкуецца паводле кнігі, выдадзенай ў Вільні ў 1936 г. часопісам «Калосьсе». У наступных нумарах магчымы невялікія скарачэньні.

* Каз. Сваяк. Дзея маей мысьлі, сэрца і волі. Вільня, 1932. Далейшыя вытрымкі з гэтай самай кніжкі.

РЫТАРЫЧНАЕ ПЫТАНЬНЕ

# Губляем рэшткі

Памятаецца, як многія з аптымізмам і даверлівасьцю ўспрынялі Закон аб мовах у Беларускай ССР. З 1-га верасьня 1990 г. ён пачаў дзейнічаць. Паводле яго беларуская мова павінна стаць паўнапраўна дзяржаўнай у Беларусі. А як на самой справе, які плён дзейнасьці гэтага закону мы маем сёньня? Ды ніякага, усё, як было, калі не горш. Нашы парламентарыі і ў вус не дзьмуць, каб хоць крыху авалодаць дзяржаўнай моваю, чыноўнікам усіх рангаў яна непатрэбная, бо ёсьць «великий, могучий общепонятный язык». Яны ж — «інтэрнацыяналісты» (?).

Нават сваю «Народную газету» беларускі парламент выдае на беларуска-расейскай трасянцы. Вось і народная! А мо гэта робіцца з перспектывай на будучыню, каб прыхапіць кавалак Расеі і ўзьяднаць яго з Беларусьсю, каб жыхарам тых абшараў было лягчэй чытаць «Народную газету»? Але горш за ўсё тое, што зь яе ўзялі прыклад новастворанья «Праца», «Наша доля», «Паляўнічы і рыбалоў», шэраг раённа-гарадскіх, традыцыйна беларускамоўных, газет. Стала выходзіць менская гарадская «Добры вечар» на трасянцы. А вось беларускі пісьменнік Васіль Якавенка вырашыў выдаваць расійскамоўную газету «Набат».

Аказваецца, закон законам, а сёй-той усё мацней заціскае гужы на беларускай мове. Відаць, лічыць, што яна занадта растлусцела пад сонцам сталінскай і брэжнеўскай канстытуцый, і таму яе трэба трымаць на галодным пайку, каб і не дыхала.

Язэп СУКАЛА.

*Над Нёмнам высяцца старасьвецкія муры Каложы.*



ФАКТЫ СВЕДЧАЦЬ

# Прагрэсіўнае, дабратворнае, вялікае?

(Заканчэньне. Пачатак на 3-й стар.)

губернатарам забараніць жыхарам Беларусі пасылаць дзяцей у вышэйшыя навучальныя ўстановы Царства Польскага.

**(Гісторыя Беларускай ССР, т. 1, с. 572).**

* * *

Новую рэформу асветы ў Беларусі царскі ўрад пачаў вельмі своеасабліва. Ён перш за ўсё і найбольш аператыўна расправіўся з Віленскім універсітэтам, разглядаючы яго як рассаднік польскага ўплыву ў Літве і Беларусі. Але закрыў ён віленскі універсітэт у маі 1832 г. не толькі і не столькі за гэта, колькі за тое, што буйнейшы цэнтр культуры беларускага, літоўскага і польскага народаў... быў цэнтрам грамадска-палітычнай думкі ў Беларусі і Літве.

**(Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. «Народная асвета», Мн., 1968, с. 147—148).**

* * *

Сейчас после возстания (1831 г. — Рэд.) повидимому начала мелькать идея обрусения края, тогда еще очень неясная. Правительство смущал широкий расцвет местной школы, находившейся в руках католиков и униатов, и оно начало с уменьшения числа училищ, без замены их однако русскими: в 1834 г. число казенных училищ в крае было уменьшено наполовину.

**(Россия. Полное географическое описание. Том девятый. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. С.-Петербург, 1905, с. 108).**

* * *

Першая ў гісторыі Беларусі Віцебская настаўніцкая семінарыя праіснавала ўсяго пяць год. Забяспечыўшы за гэты час настаўнікамі 62 вучылішчы Беларускай вучэбнай акругі, яна ў 1839 г. была закрыта.

**(Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі, с. 149).**

* * *

Край страціў у 1842 г. адзіную ў той час вышэйшую навучальную ўстанову — Медычна-хірургічную акадэмію, а таксама Духоўную акадэмію ў Вільні.

**(М. Косман. Гісторыя Беларусі, с. 213).**

* * *

Прагрэс, дасягнуты ў развіцці асветы Беларусі з часу яе ўз'яднання з Расіяй, відавочны... У 1856 г. у Беларусі вучыўся ў школе толькі кожны двухсоты чалавек, або прыблізна 0,5% усяго насельніцтва Беларусі. У 1860 г. у Беларусі з кожных 10.000 сялян вучылася ў школе толькі 19 чалавек. У канцы 50-х гадоў адна сярэдняя навучальная ўстанова ў Беларусі прыходзілася на 287.500 чалавек насельніцтва.

**(Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі, с. 159).**

* * *

У Горы-Горацкім інстытуце і ў «земляробчым пры ім вучылішчы» рыхтавалі аграномаў і кіраўнікоў для маёнткаў (у 1854 г. тут вучылася 500 чалавек). Праіснавала гэта першая ў гісторыі Беларусі спецыяльная вышэйшая навучальная ўстанова толькі да паўстання 1863 г. За ўдзел у паўстанні студэнтаў інстытут перавялі ў 1864 г. у Пецярбург, і ён стаў пазней базай для стварэння ляснога інстытута.

**(Тамсама, с. 158).**

* * *

На працягу лета 1964 г. ішло сьпешнае ўкладаньне і пакаваньне сабраных за два дзесяцігодзьдзі калекцый, мадэляў, інструмэнту і іншага. Адабрана было лепшае з абсталяваньня фізічнага, батанічнага, мінэралёгічнага, заалёгічнага, агранамічнага габінэтаў, усё гэта было злажана ў 76 скрынках, вагою ў 667 пудоў, цаною ў 36.590 руб. і накіравана ў Пецярбург. Перавезена таксама частка бібліотэкі і архіву.

**(С. Цытовіч. 1863 год у Горы-Горках. «Запіскі Аддзелу гуманітарных навук» Інбелкульту, с. 335).**

* * *

По переписи 1897 г. в Минской губернии грамотных было только 17 человек на каждых 100 — меньше, чем в среднем тогда по России. Царское правительство не признавало белорусского языка. Преподавание в школе велось только на русском языке.

**(Советский Союз. Том «Белоруссия», М., 1967, с. 81).**

* * *

Паводле даных упраўлення Віленскай вучэбнай акругі, у 1911 г. у школах навучалася толькі 25,9% хлопчыкаў і 10,7% дзяўчатак, або 18,4 дзяцей школьнага ўзросту. З-за нястачы месцаў школы адмаўлялі ў прыёме дзесяткам тысяч дзяцей.

**(Гісторыя Беларускай ССР, т. 2, с. 530).**

Андрэй ЗЯЗЮЛЯ (1878—1921)

# НІКОЛІ

Над гонар і славу,
Над чары каханьня,
Народную справу
І перакананьні,
Што розум дыхтуе,
Заўсёды я волю,
Ня здраджу ніколі.

Хай хмара навісьне
Над соннай зямлёю,
Хай гора прыцісьне
Жалезнай рукою,—
Я роднае мовы
Ня кіну ў нядолі,
Ня здраджу ніколі.

Бушуе хай бура,
Віхор хай злуецца,
Хай вецер панура
Завые на рэчцы,—
Я роднага краю,
Што рвецца да волі,
Ня здраджу ніколі.

Хай гром з пярунамі
Грыміць і страляе,
Маланка агнямі
Хай бліскае, зьзяе,—
Свайго я народу,
Бяз хлеба і солі,
Ня здраджу ніколі.

Хай срэбра, дукаты
Мне сыплюць пад ногі
І скажуць: «Багаты
Будзь, кінь род убогі»,—
Я плюну з пагардай,
А роду і волі
Ня здраджу ніколі.

Да самага скону
Усякім прымусам
І сіле прыгону
Скажу: «Беларусам
Навек астануся,
Сваёй ўласнай волі
Ня здраджу ніколі».

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# Люты

*Пытаеца люты, ці добра абуты. У лютым востры мароз — кароткая зіма.*

*На Трыфана (1 ст. ст.) зорна — вясна позняя.*

*Грамніца — хлебу палавіца, а корму траціна. На Грамніцы адліга — з ураджаем будзе фіга. На Срэценьне зіма з летам сустракаецца.*

*Соль сьв. Агаты (5 н. ст.) бароніць ад агню хаты.*

*Па Дароце (6 н. ст.) высахнуць хусты на плоце.*

*Сьв. Улас (11 ст. ст.) — апякун жывёлы. Уласаў дзень — каровінае сьвята. Каля Ўласа сем маразоў — тры да Ўласа, адзін на Ўласа і тры па Ўласе.*

*Фаціньня (14 ст. ст.) — заступніца ад трасцы.*

*Калі на Пятра (22 н. ст.) — цёпла, зіма працягнецца да Вялікадня.*

*Янавай галавы баіцца зіма (24 ст. ст.).*

*На Мацея (24 н. ст.) — дарога пацее.*

Беларуская крыніца
Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта.
Выдаўца Пётр СІЛКО.
В. а. галоўнага рэдактара Алесь ТРАЯНОЎСКІ.

Адрас для карэспандэнцыі: 220113. г. Менск, вул. Я. Коласа, 29-а.

Аўтары адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, што паведамляецца ў матэрыялах. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтара. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца і не высылаюцца назад аўтарам.

Друкарня «Чырвоная зорка». г. Мінск.
Наклад 10 тысяч паасобнікаў.
Зак. 2412.

 



# ПАЛІТЫЧНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ

## Арганізацыйнага камітэту Хрысціянска-дэмакратычнага Саюзу Беларусі

(Заканч. Пачатак на 1-й стар.)

ходу з бездані ўсеагульнага крызісу. Удзельнікі зноў адроджанага хрысьціянска-дэмакратычнага руху ў Беларусі бачаць выйсьце з гэтага сацыяльна-эканамічнага тупіка шляхам адраджэньня ў нашым грамадстве сьветапогляднага і маральна-этычнага фундаменту, закладзенага ў Вечнай Кнізе чалавецтва — Эвангельлі Госпадам нашым Ісусам Хрыстом! Вось таму хрысьціянскія дэмакраты Беларусі стварылі Арганізацыйны камітэт Хрысьціянска-Дэмакратычнага Саюзу. Хрысьціянска-Дэмакратычны Саюз Беларусі (ХДСБ) — арганізацыя, якая мае на мэце духоўна-маральнае, палітычнае і эканамічнае адраджэньне Беларусі, як прававой, дэмакратычнай, самастойнай і суверэннай дзяржавы.

Хрысьціянска-Дэмакратычны Саюз Беларусі выступае за ўсталяваньне асноўных каштоўнасьцяў хрысьціянскае культуры: братэрскае любові, міласэрнасьці, свабоды і адзінства ўсіх людзей.

ХДСБ заклікае да аб'яднаньня ўсіх хрысьціян, незалежна ад канфэсій, а таксама ўсіх тых, хто шукае шлях да Хрыста, для абароны свабоды і годнасьці чалавека, забесьпячэньня прыярытэту ягоных правоў перад інтарэсамі дзяржавы.

Сацыяльна-палітычнымі ідэаламі ХДСБ зьяўляюцца дэмакратыя, прававая дзяржава і сацыяльная рынычная гаспадарка.

У рэлігійнай сьферы жыцьця грамадзтва ХДСБ патрабуе прызнаньня свабоды сумленьня і свабоды дзеяньня ў поўным аб'ёме рэлігійных арганізацыяў, якія не прапаведуюць варожасці і гвалту, як асноўнае ўмовы духоўнага адраджэньня Беларусі. Не павінна быць ніякіх абмежаваньняў свабоднаму распаўсюджваньню рэлігійных перакананьняў, акрамя неабходных для аховы свабод і правоў чалавека ў дэмакратычным грамадзтве. Нараўне са свабодаю веравызнаньня павінна быць забясьпечана і права на атэізм, як сьветапогляд асобы. Павінна быць адноўлена місіянерства і рэлігійнае выхаваньне, забясьпечана права доступу вернікаў да сродкаў масавай інфармацыі.

Адносіны вернікаў, рэлігійных аб'яднаньняў і арганізацыяў зь дзяржаваю павінны рэгулявацца толькі законам. Якое-небудзь умяшаньне дзяржавы ў справы рэлігійных арганізацыяў, якія дзейнічаюць паводле закону, выключаецца. Павінна быць забароненая любая дыскрымінацыя грамадзян ва ўсіх сьферах жыцьця і дзейнасьці паводле рэлігійнага або веравызнаннага прынцыпу. Пры гэтым павінны існаваць прававыя нормы, якія вызначалі б адміністратыўную або крымінальную адказнасьць асоб, вінаватых у гэткай дыскрымінацыі.

Павінна быць заканадаўча забаронена прапаганда любой ідэялогіі, якая мае на мэце заціск правоў вернікаў у грамадстве або ліквідацыю ці выпустошваньне прынцыпу свабоды сумленьня.

У палітычнай і прававой сьферы жыцьця грамадзтва ХДСБ лічыць неабходным пабудову прававой дзяржавы на аснове прынцыпаў хрысьціянскае дэмакратыі. Вынікам дзяржаўнага будаўніцтва павінна быць станаўленьне ў Беларусі цывільнага грамадзтва, заснаванага на самакіраваньні свабодных грамадзян.

Форма дзяржаўнага ладу дэмакратычнае Беларусі павінна быць вызначана свабодна выбраным ва ўмовах шматпартыйнае сістэмы парламентам. Пры гэтым усе партыі, якія ўдзельнічаюць у выбарах, не павінны мець якіх-небудзь пераваг.

Ніякая ідэялогія, што існуе ў грамадзтве, не павінна мець статусу дзяржаўнай. Не павінна існаваць ніякіх ідэялагічных падраздзелаў і надбудовак ва ўсіх дзяржаўных інстытутах (на прадпрыемствах, у арміі, міліцыі, дзяржбясьпецы і г. д.).

У грамадзтве павінны быць рэалізаваныя ўсе без выключэньня дэмакратычныя правы асобы, прызнаныя ў міжнароднай супольнасьці як агульначалавечыя каштоўнасьці.

У заканадаўчым парадку павінна быць забаронена прапаганда насільля, тэрарызму, рэлігійнай ці нацыянальнай варожасьці.

Роспачны вынік эканамічнага развіцьця Беларусі на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў паказаў утапічны характар і відавочную немагчымасьць рэалізацыі на практыцы сацыялістычных ідэй.

Уласнасьць, якая была гучна абвешчана ўсенароднаю, а стала па сутнасьці нічыёю, разбураецца і гіне ў выніку эксплуатацыі абыякавымі да яе вытворцамі матэрыяльных даброт, што працуюць пад кіраўніцтвам бяздушнага чыноўніцкага саслоўя, наменклатурных работнікаў і партакратыі.

Бяссэнсоўная па сутнасьці ідэя дзяржаўна-планавага разьвіцьця грамадзтва паступова перарасла ў сістэму татальна-разьмеркавальнага механізму, які канчаткова разбурыў эканоміку краіны.

Бяздушна-чэрствыя адносіны да прыродных рэсурсаў прывялі іх да мяжы поўнага вычарпаньня, а гэткае ж стаўленьне да простага чалавека — да эканамічных і прамысловых катастрофаў, такім, як Чарнобыльская, якая паставіла Беларусь перад гамлетаўскім пытаньнем: быць або не быць?

Кожны чалавек, які жыве ў краіне, бачыць, што сёньня ўжо амаль нечага купіць, а заўтра, магчыма, амаль нечага будзе есьці.

ХДСБ бачыць шлях выйсьця з народнагаспадарчага крызісу толькі ў дэцэнтралізацыі народнай гаспадаркі, у пераходзе да сацыяльнае рыначнае эканомікі, якая грунтуецца на прыватнай уласнасьці і хрысьціянскай справядлівасьці, на асабістай ініцыятыве і пачуцьці адказнасьці перад блізкім за справы прадпрымальнасьці.

Для пасьпяховага пераходу да рынкавай эканомікі трэба перадаць большасьць прадпрыемстваў дзяржаўнага сектару з рук кіраўнічай бюракратыі ў прыватную ўласнасьць шляхам продажу прыватным асобам, кааператывам, акцыянерным арганізацыям вытворчых будынкаў, абсталяваньня, будаўнічых матэрыялаў і г. д.

Прыватызацыя ўласнасьці дазволіць стабілізаваць фінансавую сістэму, а гэта паступова дазволіць перайсьці да канвертавальнасьці нацыянальнае валюты.

Сацыяльная рынкавая эканоміка прадугледжвае раўнапраўе ўсіх формаў уласнасьці (прыватнае, дзяржаўнае, кааператыўнае) пры наяўнасьці антыманапольнага заканадаўства ў спалучэньні з старанна прадуманай падатковай сістэмаю, якая дазволіць весьці актыўную сацыяльную палітыку ў кірунку грамадзтва ўсеагульнага дабрабыту.

Роспачны стан навакольнага асяродзьдзя патрабуе прыняцьця неадкладных мер з мэтаю засьцярогі ад экалагічнае катастрофы.

ХДСБ лічыць, што разважнае самаабмежаваньне з мэтаю забесьпячэньня асноўных умоў існаваньня чалавека павінна стаць асноватворным прынцыпам экалагічнае палітыкі.

Сацыяльная абароненасьць чалавека — адна з асноўных мэтаў, дзеля якіх Беларусь павінна быць пераведзена на шлях рынкавай эканомікі. Істотную ролю ў хрысьціянскай сацыяльнай палітыцы адыгрываюць дабрачынныя арганізацыі: багадзельні, таварыствы міласэрнасьці, лячэбныя ўстановы, лячэбна-аздараўленчыя цэнтры, бясплатныя ўстановы грамадзкага харчаваньня для бедных і іншых маламаёмных людзей.

Гэта асабліва важна на шляху станаўленьня дзяржавы, таму пачынаць трэба адразу.

Усямернае разьвіцьцё навукі і нацыянальнае культуры, павышэньне ўзроўню народнае адукаванасьці зьяўляюцца неабходнымі ўмовамі духоўнага, палітычнага і эканамічнага адраджэньня Беларусі.

ХДСБ лічыць, што трэба неадкладна распрацаваць і сфармуляваць праграмы як па самых важных кірунках разьвіцьця нацыянальнай навукі і культуры, так і па перабудове існуючай сістэмы адукацыі.

Фундаментальныя навуковыя дасьледаваньні павінны фінансавацца дзяржаваю, хоць павінны заахвочвацца і прыватныя навуковыя дасьледаваньні пад адпаведным кантролем.

Трэба ствараць і разьвіваць прыватныя і грамадзкія цэнтры гуманітарных і сацыялагічных дасьледаваньняў, цалкам вызваленых ад ідэялагічнага кантролю.

Дзяржава павінна падтрымліваць бюджэтнымі асігнаваньнямі разьвіцьцё музыкі, малярства, тэатральнага мастацтва, кіно і г. д. але ўстрымлівацца ад ідэялагічнага і ўсялякага іншага ўзьдзеяньня на мастацкую дзейнасьць і дзейнасьць арганізацый культуры.

Для павышэньня ўзроўню народнай адукаванасьці ў Беларусі неабходна:

— пашырыць сетку агульнаадукацыйных школ і вышэйшых навучальных устаноў, абсталяваных сучаснаю (асабліва кампютэрнаю) тэхнікаю;

— нароўні зь дзяржаўнымі ствараць грамадзкія і прыватныя навучальныя ўстановы ўсіх узроўняў, у тым ліку і рэлігійныя навучальныя ўстановы;

— правесьці дэідэялагізацыю ўсіх навучальных праграм і сістэмы адукацыі ў цэлым. Выключыць з навучальных праграм прадметы тыпу «гісторыя КПСС» «навуковы камунізм», «асновы дарвінізму» і інш.;

— ліквідаваць ідэялагічныя органы ў сістэме адукацыі.

ХДСБ лічыць, што нацыянальнае пытаньне адно з найбольш важных, вырашэньне якога вызначыць лёс Беларусі, як дзяржавы, якая мае сваю культуру, сваю мову, свае традыцыі і сваю нацыянальную мінуўшчыну.

ХДСБ зыходзіць з высновы, што нацыянальныя праблемы больш жывучыя, чым існуючы эканамічна-палітычны рэжым, і павінны вырашацца на шляху самавызначэньня Беларусі, як самастойнае дзяржавы.

Вырашэньне іх патрабуе часу, цярплівасьці, праявы добрае волі і ўзаемаразуменьня.

Нацыянальнае адзінства Рэспублікі немагчымае без практычнае рэалізацыі права кожнага грамадзяніна на нацыянальнае самавызначэньне. Кожны грамадзянін Беларусі павінен мець права лічыць сябе тым, кім ён ёсць: беларусам, рускім, украінцам, палякам, яўрэем і інш.

Вызначэньне ўласнай нацыянальнасьці, як і выбар рэлігіі — асабістая справа кожнага грамадзяніна.

Распальваньне нацыянальнай нянавісьці, дыскрымінацыя грамадзян паводле этнічных і расавых прыкмет не сумяшчальнае з хрысьціянскімі прынцыпамі і павінны карацца законам.

Гэта асноўныя прынцыпы, якія вызначаюць характар дзейнасьці Хрысьціянска-Дэмакратычнага Саюзу Беларусі.

Калі мэты і задачы гэтае арганізацыі Вам блізкія, уступайце ў яе, каб унесьці свой уклад у адраджэньне нашае Бацькаўшчыны, у яе духоўнае і маральнае ўзнаўленьне.

ПАМЯТАЙЦЕ — ЧАСУ ЗАСТАЛОСЯ ВЕЛЬМІ МАЛА!
КАЛІ НЕ МЫ — ДЫК ХТО?

АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ
ХРЫСЬЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНАГА
САЮЗУ БЕЛАРУСІ

Тэлефоны для кантактаў: у Менску — 23-21-18, 32-03-01; у Віцебску — 36-30-86, 5-83-52; у Гомелі — 55-79-03; у Гародні — 44-01-27, 45-22-54 (Данута Янаўна); у Магілёве — 41-03-72; у Наваполацку — 2-27-05, у Бярэсьці — 1-39-87 (Уладзімір Андрэевіч, з 20 да 22 гадзін).

# СЬВЯТЫ ФЭЛІЦЫЯН — АПЯКУН МЕНСКА

Відаць, ня ўсім вядома, што апякуном Менска зьяўляецца сьвяты Фэліцыян-пакутнік. Ён быў закатаваны за сьвятую веру, калі рымскі імпэратар Дыяклетыян зьдзекаваўся з хрысьціянаў. Ягоныя мошчы былі перададзены Апостальскай Сталіцаю роду Завішаў у Беларусі.

Маршалак Вялікага Княства Літоўскага затым ахвяраваў іх айцам Закону Езуітаў у Менску, якім належаў тады катэдральны касьцёл на Высокім Месьце. У 1713 годзе віленскі біскуп урачыста зьмясьціў сьвятую рэліквію на вечныя часы ў адной за капліцаў катэдры. Яна была ў правай наве, побач зь вялікім алтаром, перад уваходам у закрыстыю.

Пасьмяротныя астанкі Апякуна Менска і Менскай дыэцэзыі спачывалі ў срэбранай дамавіне (саркафазе).

У кожны панядзелак а 7-ай гадзіне ўранку перад пахавальняю сьвятога Фэліцыяна служылася імша. У гонар сьвятога вялікапакутніка адна з бліжэйшых ад касьцёла вуліц была названа Фэліцыянскаю. Пасьля гвалтоўнага далучэньня Беларусі да Расейскае імпэрыі і распачыцьця нялюдскае русыфікацыі нашага краю, вуліца была пераназваная ў Багадзельную. Цяпер яна завецца Камсамольскаю.

Каталіцкі касьцёл штогод ушаноўвае памяць сьвятога Фэліцыяна-вялікапакутніка 3 лютага.

ЛІТВА

# Партыя для ўсіх хрысьціян

У чацьвертым нумары газеты «Голас Литвы» за 12—18 лістапада 1990 г. апублікавана размова з старшынём управы Хрысьціянска-дэмакратычнае партыі Літвы Эгідыюсам Клумбісам. ХДПЛ была створана ў 1907 годзе. Яна адыграла значную ролю ў даваеннай Літве: подпісы пяці хрысьціянскіх дэмакратаў стаяць пад Дэкляарацыяй Незалежнасьці 1918 г. У першай палове 20-ых гадоў ХДПЛ налічвала 9 тысяч членаў, а з 112 дэпутатаў Устаноўчага Сойму 59 былі хрысьціянскімі дэмакратамі. У 1944 г. партыя вымушана была спыніць сваю дзейнасьць у Літве, але яна працягвала сваю працу ў эміграцыі. 16 лютага 1989 г. у Вільні было прынята рашэньне пра адраджэньне ХДПЛ, а ў канцы студзеня 1990 г. абдылася ўстаноўчая канферэнцыя. На выбарах у Вярхоўны Савет Літвы хрысьціянскія дэмакраты атрымалі тры дэпутацкія мандаты. Член ХДПЛ Альгірдас Саўдрагас — міністр замежных спраў Літоўскай Рэспублікі.

«Асаблівасьцю хрысьціянска-дэмакратычнага руху ў Літве зьяўляецца тая роля, — зазначыў Э. Клумбіс, — якую ва ўсе часы нашае гісторыі адыгрывала і працягвае адыгрываць Каталіцкая царква. Гэта датычыць як станаўленьня нацыянальнае самасьвядомасьці літоўскага народа, так і тае бескампраміснае барацьбы, якую вяла Царква ўсе гэтыя гады за правы чалавека, за незалежнасьць Літвы. Партыя адкрыта для ўсіх хрысьціян, не толькі каталікоў, але гэтаксама лютаран і праваслаўных».

Далей Э. Клумбіс сказаў: — «Але я хацеў бы падкрэсьліць тут, што Хрысьціянска-дэмакратычная партыя Літвы — не царкоўная арганізацыя, хоць аддзелы партыі ёсьць ва ўсіх парафіях Рэспублікі і мы з Царквою цесна супрацоўнічаем, рэпрэзэнтуем і абараняем яе інтарэсы ў грамадзкім і палітычным жыцьці Літвы; мы — партыя з сваёю структураю, з членствам, з праграмаю дзейнасьці... У партыі цяпер каля чатырох тысяч членаў. Вышэйшым яе органам зьяўляецца канферэнцыя, якая выбірае раду. Выканаўчы орган — управа з 19 чалавек, якія выбіраюць старшыню ўправы...

Партыя хрысьціянскіх дэмакратаў выступае за безумоўную прыватную ўласнасьць ва ўсіх сьферах гаспадаркі... А ў цэлым эканамічная стратэгія хрысьціянскіх дэмакратаў Літвы можа быць сфармулявана наступным чынам: «Праз прыватызацыю — да стварэньня новай Літвы».

Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ

# МАЛІТВА

Божы Сын, спусьціся зь неба,
Абыйдзі зямлю наўкола...
Чуеш крык? Ён немы-немы,
Гэта наш адзіны голас.

Як ваўкі, мы у загоне,
За сьцяжкамі — мова, памяць...
Кім былі калісь! А сёньня...
Што такое, Божа, з намі?

Бачыш хаты? Вокны — крыжам...
У руках дрыготкіх — сьвечкі...
Падыйдзі да гора бліжай,
Ці не гэта ўжо наш вечар?

Ноч насоўваецца хмарай
З´чорным пылам, чарнабылам...
Ты не браў такіх ахвяраў
Шчэ ў нікога, Божа мілы!

Для адноўленых сьвятыняў
Сьвятароў чужых наймаем,
Мо таму малітва стыне,
Да цябе не далятае?

Божа наш, даруй нам кволым,
Сілу дай распраміць плечы,
І вярні, вярні нам голас
Наш спрадвечны, чалавечы.
1990.

 

Казімер СВАЯК (1890—1926)

## Загляне сонца...

Загляне сонца ў наша ваконца,
Хатку асьвеціць праменьмі —
Па цёмнай ночы ажывіць вочы
Боскім да працы натхненьнем.
Позна мы ўсталі, і шмат праспалі,
Гойдалі злыдні нам долю —
Пялі песьні нам на прадвесьні,
Песьні радасьці ў няволі.
Заход сьмяяўся, каб ён даждаўся,
У лапцёх што з труду мы спалі —
Усход нас мучыў цяжка-балюча:
Хацеў, каб з душой мы прапалі.
Абы балота, будзе ліхота:
Дзёрлі нас нянькі-начніцы —
Аж да жывога — мо з волі Бога —
Кроў аж зрасіла зямліцу.
Аж застагнала зямля ў падвалах,
Неба пакрыў бліск агнівы —
З болю зямліцы, з крыві крыніцы,
Брат наш збудзіўся русьняны.
Асьвеціць сонца яго ваконца,
Злуду мар сонных разьвее —
І выйдзе з плугам ён саматугам,
Родненьку ніву засее.
Груган з Усходу, а крук з Заходу
Дарма там жыру шукае —
Бо зерне спорна, у волю прасторна,
Хутка пад неба ўзрастае.

(Беларускі каляндар «КРЫНІЦА» на 1920 год).

ФАКТЫ

СВЕДЧАЦЬ

## Прагрэсіўнае, дабратворнае, вялікае?

У выніку падзелаў (Рэчы Паспалітай. — Рэд) у склад Расіі былі ўключаны няпольскія землі: Беларусь, Літва, большая частка Украіны і Латвіі.

Пераход гэтых зямель да Расіі меў для іх прагрэсіўнае значэнне, бо ён садейнічаў больш шпаркаму эканамічнаму, культурнаму і палітычнаму развіццю.

(Гісторыя Беларускай ССР, т. 1, «Навука і тэхніка», Мн., 1972, с. 447).

* * *

Уз'яднанне з Расіяй дабратворна адбілася на эканамічным, палітычным і культурным развіцці Беларусі.

(Гісторыя Мінска, «Навука і тэхніка», Мн., 1967, с. 79).

* * *

Уключэнне Беларусі ў Рас. дзяржаву мела вял. значэнне для культурнага развіцця бел. народа.

(БелСЭ, т. 12, 1975, с. 103).

◆

Войскі Аляксандра I... (у час вайны 1812 г. — Рэд.) занялі Нясвіж, дзе захапілі схаваную радзівілаўскую скарбніцу і забралі ўсе каштоўнасьці, што аздаблялі нутранасьць замка. Усё гэта вывезена на некалькіх дзесятках фурманак, пасьля чаго замак на тры дні быў аддадзены на рабунак салдатам. Непапраўнаю стратаю было зьнішчэньне каштоўнага архіву: войска паліла дакументы, імі быў запоўнены роў, што акружаў магнацкую рэзідэнцыю.

(М. Косман. Гісторыя Беларусі. «Асалінеум», Вроцлаў-Варшава-Кракаў-Гданьск, 1979, с. 209).

* * *

Полацкая езуіцкая акадэмія, каталіцкая вышэйшая навучальная ўстанова. Засн. у 1812 у Полацку на базе езуіцкага калегіума (з 1581)... Мела ф-ты: моў (вывучалі рус., франц., ням., лац., грэч., стараж.-яўр. мовы), вольных навук (філасофія, прыродазнаўчыя і цывільныя навукі, у т. л. фізіка, матэматыка, архітэктура, грамадзянскае права, гісторыя), тэалагічны... Закрыта ў 1820.

(БелСЭ, т. 8, 1975, с. 488).

* * *

У 1825 г. былі зроблены захады, каб абмежаваць магчымасці юнацтва Беларусі атрымліваць вышэйшую адукацыю; цэсарэвіч Канстанцін загадаў

(Заканчэньне на 4-й стар.)

Адам СТАНКЕВІЧ

# З ЖЫЦЬЦЯ І ДЗЕЙНАСЬЦІ КАЗІМЕРА СВАЯКА

### I. ПАЧАТКІ

Казімер Сваяк — беларускі паэт і дзяяч — займае ў беларускім адраджэнскім жыцьці сусім арыгінальнае, асобнае месца. Ужо толькі дзеля гэтага варта беларускаму грамадзянству і народу бліжэй з ім знацца. Да таго ж сёлета 6.V. мінула роўна 10 гадоў ад яго сьмерці, а ў архіве знаходзяцца дагэтуль нявыкарыстаныя аб ім весткі, асабліва ў яго «Хроніцы Хаўрусу». Вось жа гэтыя жалобныя ўгодкі няхай паслужаць нам нагодай бліжэй пазнаёміцца з жыцьцём і дзейнасьцяй Казімера Сваяка.

Казімер Сваяк — гэта літаратурная мянушка. Праўдзівае яго прозьвішча Кастусь Стэповіч. Радзіся ён 19 лютага 1890 году ў вёсцы Барані Сьвянцянскага пав. Сын сялян-паўвалочнікаў. Да 1900 году жыў пры бацькох, памагаючы ім у гаспадарцы, як пастушок. Некаторы час бацькі яго жылі ў вадным засьценку, як арандатары. Як Барані, так і той засьценак, знаходзіліся ў глухім лесе. Лес, сваей красой і таёмнасьцяй, і так ад прыроды ўражлівую душу будучага паэта, настрайваў і выраблям на мастацкі, філёзафічны і містычны лад. Да далейшага развою душы яго ў гэтым жа кірунку спрыяла яго бабка і стары пастух Марцін, якія расказвалі яму беларускія казкі і пялі такія ж песьні. У гэтым часе Казімер Сваяк скончыў расейскую пачатковую школу.

Час свайго раньняга дзяцінства ўспамінае Сваяк пасьля з тугой і расчуленасьцю:

«Далёка ты, родная старонка, ад мяне...

На крыльлях хмарных ляціць мысьль мая туды, дзе я ўбачыў сьвет, дзе айцец мой дарагі, дзе маці мілая, дзе сястрыца родная. Родзяцца во думкі: то сьветлыя, як вясеннае сонца над роднаю вёскай, то сумныя, як тая ночка цёмная, сьлязьлівая, восенная...

Прад вачмі стаіць уся прошласьць, што мінула як блыскі сьвятла, на векі згаснутага... Ня вярнецца ніколі... Штодзень, штомомант далучаецца да яе новая хваля і... прападае вечна. Ах, шчасьлівы той, што збудаваў сабе стройную, горную мінуўшчыну... Чаму я неспакойны, чаму бязвольны?!.

Дарагі! Сабяры сілы духа... Стаў прад сабой усё, што прайшло... Будуй новае, штораз высшае жыцьцё!..

* * *

Шуміць цёмны лес навокал Гаруноў, малой вёскі беларускае. Кругом ні жывой душы. Зрэдку толькі адзавецца зьвяга сабак вясковых, што чуюць ваўкоў. Людцы сьпяць адны, другія кончаць вячэру. У хаце апошняй, пры самым лесе, мігціць праз акно агоньчык.

Дзеткі акружылі навокал бабулю і слухаюць пільна казкі. Усе ўжо расходзяцца спаць. Ім толькі не да сну, бо якраз байка ідзець аб самым цікаўным: «Крыся абярнулася ў вадзянку і жывець у азярку. Штодзень чуе яна голас жалосны з берагу — Крыся, Крыся, маладзян плачыць... Штодзень адзываецца яна з жвіраватага дна. — Іду — бягу, раса вочкі залівае, жвірок ножкі падбівае»...

Слухалі дзеткі казкі-песьні. Аж замiралі з ахвоты даведацца, чым гэта кончылася, аж блішчэлі іх вочы. І ў ночы пасьля пялі яны ціхутка праз сон: «Крыся — Крыся! — Іду — бягу»... Шчасьлівае дзяцінства! Як жа яно жыва запісалася ў маей памяці! Няма ўжо тэй бабулі. Зьмяніла яе новае пакаленьне. Забыліся аб ёй чуць ня ўсе. Ах, вечны табе спакой, родная! Прыдзі хоць у сьне йшчэ да мяне...

* * *

Помню ноч. Сям'я наша тады была падзелена. Часьць жыла ў Гарунох, а часьць у глухім засьценку Загінца. У засьценку жыла старушка, брат і я. Брат пасьвіў. Прыгналі раз дамоў. Прышла жывёла — брата ня было: прапаў недзе. Бабуля ня спала і плакала поўна неспакою. Лес быў кругом вялікі, з балотамі, гушчарамі, хмызьнякамі. Вадзілася многа ваўкоў. Штоноч чуваць было іх завываньне; навадзіла яно і адважнаму дрыжачку на плечы... Цёмна. Поўнач. Алеся няма...

«Найсьвятша Матка да касьцёла хадзіла,
Сваё Дзіцятка за ручку вадзіла» —

мовіла бабуля свае пацеры голасам плачлівым і безнадзейным. Мне было страшна. Утуліўся глыбока, закрыў вочы і вушы і... заснуў здаровым дзіцячым сном. Назаўтра з зарой брат вярнуўся. Начаваў пры агні ў лесе, не баючыся ні ваўкоў, ні благіх людзей...

Незваротны час! Як жа я тады блізкі быў прыроды, як зжыўся з шаптуном-борам, з зялёным гаем, кветным лугам! Быць любіў і пад навальніцай — громам і пад гарачым сонцам, і на балючым марозе. Якое здароўе біла з майго твару!.. А цяпер!..

(Працяг на 4-й стар.)

МАРТЫРАЛОГ НАШЫХ СЬВЯТЫНЯЎ

# СПАГАНЕНЫЯ СЬВЯТЫНІ, ЗРУЙНАВАНЫЯ ПОМНІКІ

Калісьці, здаецца, ці не ў 1960 годзе, мне давялося быць у Гомелі. Восеньскім днём я блукаў па горадзе і зазірнуў у парк над Сожам. Каля сабора я ўбачыў вялікі натоўп людзей, здавалася, што сюды сабраліся людзі з паловы горада. Была якраз нядзеля, і можна было падумаць, што яны прыйшлі сюды на набажэнства. Калі б... Калі б не абураныя крыкі, што чуліся адтуль, калі б не было тут мноства міліцыі. Падыйшоў я бліжэй і ўсё яшчэ не мог зразумець, што тут робіцца. Сярод натоўпу шнырылі ўсюдыісныя падшыванцы-хлапчукі, якім усё хочацца ведаць і ўсё бачыць. Вось адзін з іх і паінфармаваў мяне:

— Царкву закрываюць. Прывялі царкоўнага старасту, каб адчыніў яе. А ён не хацеў. Ды яго павалілі і адабралі ключы, самі адамкнулі, потым павесілі свой замок...

Паглядзеў я на гэтае варварства, паслухаў, як абураюцца людзі, як пратэстуюць яны і, што ж заставалася рабіць? — рушыў далей. Але мяне абагнаў нейкі шустры малады чалавек, ён дабег да міліцыянтаў, што стаялі ў канцы паркавай алеі. Штосьці сказаў ім, кіўнуў у мой бок. Калі я падыйшоў бліжэй, да мяне ступіў капітан.

— Ваши документы? — запатрабаваў ён.

Дастаў і паказаў яму сваё службовае пасьведчаньне журналіста. Ён пачытаў яго і вярнуў са словамі:

— А мы думали, что вы иностранный корреспондент. Мы здесь церковь закрываем, а несознательная публика протестует...

— Дык чаму ж гэта ўдзень? Вы ж звычайна гэта робіце пад покрывам ночы.

— А зачем нам таиться...

І праўда, навошта было ім, маючы ўсю ўладу ў руках, таіцца? Што ім значылі пратэсты людзей? Хоць часьцей за ўсё гэткія акцыі яны праводзілі ж ўначы. Вось, напрыклад, у Гародні стаяў касьцёл, які звалі Вітаўтаваю фараю, — помнік архітэктуры XVI стагодзьдзя. Манументальнае, велічнае збудаваньне, праўда, за пасьляваенны час даволі занядбанае. У канцы 50-ых гадоў неяк увечары я праходзіў каля яго, узбоч ягоных шэрых, магутных сьцен. А на другі дзень уранку ўбачыў там толькі гару друзу. Уначы касьцёл, які прастаяў шмат стагодзьдзяў, быў узарваны. Што-што, а ўзрываць умелі дасканала! З таго часу на гэтым месцы — пустэча.

А ці ж не ганьба — гісторыя з касьцёлам у Воўчыне каля Бярэсьця, на самай мяжы з Польшчаю. У 1938 г. сюды была перавезена з Ленінграда дамавіна з астанкамі апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста. Некалькі гадоў назад палякі спахапіліся, каб перавезці астанкі караля ў Польшчу. Але што яны ўбачылі тут? Ад касьцёла засталіся рожкі ды ножкі. Ад дамавіны і астанкаў караля — і таго менш. Зьнікла і срэбная дамавінка з сэрцам караля. Сорам і ганьба на ўвесь сьвет!

Або, скажам, каму перашкаджаў сьціплы помнік ахвярам эпідэміі, якая лютавала ў XVII ст. у Менску? Стаяў ён у паўднёва-заходнім кутку сквера на Юбілейным пляцы. Стаяў да канца 40-ых гадоў, абдзёрты, занядбаны. На ім зберагліся яшчэ надпісы па латыні. Замест таго, каб адрэстаўраваць, яго проста разбурылі, каб і сьледу не засталося. Бо дзейнічалі паводле прынцыпу: што не наша, тое зьнішчаць. Ці ж не паводле гэтага прынцыпу быў знесены помнік Траугуту ў Сьвіслачы і шэраг іншых.

Сьціплая старадаўняя мураваная капліčка стаяла калісьці на рагу вуліц Старавіленскай і Мопраўскай у Менску. Яна перажыла ўсе ваенныя завірухі, але ў пачатку 50-ых стала таксама ахвярай атэістычных рэпрэсій.

Пад няшчаднымі, нялюдзкімі ўдарамі сярпа і молата рушылася наша мінуўшчына і сучаснасьць, расчышчалася месца для пустэльнае будучыні. Руйнаваліся здабыткі нашае гісторыі, сьвятыні ператвараліся ў хлявы, могільнікі — у месцы для адпачынку і вясёлых забаў. На канцах прашчураў. Як гэта назваць?

Прэзідэнт СССР у сваім указе — аб спыненьні знеслаўленьня помнікаў, зьвязаных з гісторыяй дзяржавы і яе сімвалаў называе гэта вандалізмам. Але пры гэтым ён мае на ўвазе толькі помнікі, звязаныя з гісторыяй толькі савецкае дзяржавы. А між тым і ў нашы дні гінуць ад рук вандалаў помнікі нашае далёкае сёньня мінуўшчыны, спадчына, што засталася нам ад продкаў. Відаць, прэзідэнта менш за ўсё турбуе іхні лёс, яму, як кажуць, свая (камуністычная, вядома) сарочка бліжэй да цела.

А. ЯНОЎСКІ.



*

На здымку: помнік ахвярам эпідэміі халеры, якая спустошыла Менск у XVII стагодзьдзі. Ён быў зьнішчаны 40 гадоў назад.

(Здымак пачатку XX ст.).